*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ**



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 30(364) | 5 ЖНІЎНЯ 1998 г.

23.07.1998

## ЗАЯВА

### Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

13 ліпеня 1998 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў Закон, які прадугледжвае істотныя змены ў дзеючым Законе "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

Наданне расейскай мове, якая даўно ўжо пануе ў многіх галінах нашага жыцця, афіцыйнага статусу другой дзяржаўнай сур'ёзна падарвала ажыццяўленне ідэй беларускага адраджэння, паставіла пад пагрозу развіццё роднай мовы тытульнай нацыі краіны.

Рада ТБМ заклікае сяброў ТБМ, усіх свядомых грамадзян Беларусі прыкласці ўсе намаганні дзеля рэальнага забяспечання беларускай мове статусу дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь, дзеля сцвярджэння становішча яе як паўнапраўнай гаспадыні на сваёй гістарычнай зямлі.

Мы будзем рабіць усё, каб у XXI стагоддзі наша цудоўная беларуская мова, нягледзячы на ўсе высілкі мясцовых і замежных ворагаў Беларушчыны, годна пачувалася сярод самых развітых і багатых моваў свету.

## ЗВАРОТ

### Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны да Прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.П.Вайтовіча

**Паважаны Аляксандр Паўлавіч !**

Са здзіўленнем і абурэннем даведаліся аб рашэнні Прэзідыума НАН Беларусі адмяніць залік па беларускай мове для аспірантаў і спаборнікаў. Рашэнне Прэзідыума НАН тым больш нечаканае, што парушае нават і Закон "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", які ўступіў ў дзеянне 17 ліпеня г.г.

У артыкуле 24 вышэйзгаданага Закона сказана, што "беларуская мова ва ўсіх навучальных установах Рэспублікі Беларусь вывучаецца незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці". Аспірантура Вашай шаноўнай установы, як нам здаецца, ніякім чынам не можа быць выключэннем з правіла. Дарэчы, рашэнне Прэзідыума НАН пярэчыць і артыкулу 25 Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", які мае назву "Мова ў сферы навукі".

Лічым яго амаральным, бо беларускія вучоныя заўсёды былі адным з самых актыўных і дасведчых абаронцаў духоўных скарбаў свайго народа, а мова, як агульнапрызнана гісторыяй, — найпершы і найгалоўнейшы сярод іх. Урэшце, як Вам вядома, і сама акадэмія пачыналася з Навукова-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта.

Здыміце ганьбу са сваей аўтарытэтнай установы і адмяніце цалкам палітызаванае, неразумнае і кан'юнктурнае рашэнне ў адносінах да мовы акадэмікаў Я.Купалы і Я.Коласа, К.Крапівы і П.Броўкі, М.Лынькова і М.Танка.

Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

23 ліпеня 1998 г.

23.07.1998 г.

## Пастанова

### Рэспубліканскай рады ТБМ аб складках сяброў ТБМ

Кіруючыся артыкулам 5.6 Статута ТБМ, устанавіць абавязковыя штогадовыя складкі сяброў ТБМ у памеры 10% ад мінімальнага месячнага заробку, студэнтам, пенсіянерам, беспрацоўным-5000 рублёў, школьнікам-1000 рублёў.

**BELARUSAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE**
**КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**
**54 Mary St., Barrie, Ont. Canada, L4N 1T1. Tel/ Fax: (705) 725-8654**

6 чэрвеня, 1998.
Яго Міласці Спадару Міхалу Хвастову
Паслу
Амбасады Рэспублікі Беларусь у Атаве, Канадзе.
130 Albert St., Suite 600, Ottawa, Ont. K1P 5G4

Вельмі Паважаны Спадару:

Сёння мы з абурэннем даведаліся, да якой ступені, як нялюдска дыскрымінуецца, пераследуецца ў Беларусі рэжымам Лукашэнкі беларуская мова !

Ані ў Канадзе, ані ў ніводнай краіне свету беларусы, беларуская мова і іхняя культура не толькі не пераследуецца, але і маюць поўныя правы і магчымасці да жыцця, развіцця і красавання.

Мы даведаліся, што газета "Наша Ніва" атрымала ад "Дзяржкамітэта РБ па друку" ліст, які забараняе газеце пісаць правільна па-беларуску , а прымушае яе пісаць скалечаный, зрусіфікаванай мовай, ужываючы абразлівы для беларусаў правапіс, уведзены тэндэнцыяй, варожай беларускасці правапіснай рэформай 1933 года.

Мы беларусы, грамадзяне Канады, згуртаваныя ў беларускіх нацыянальных арганізацыях пад "амбрэляй" Каарданацыйнага Камітэта Беларусаў Канады пратэстуем супраць гвалту, супраць здзеку рэжыму Лукашэнкі над беларускай мовай, над Беларушчынай, над яе народам.

Мы пратэстуем супраць дыскрамінацыі беларускае мовы ў Беларусі, супраць ламання правоў чалавека ў Беларусі. Мы пратэстуем супраць законаў, якія ломяць правы чалавека: не даюць права на свабоду слова і друку.

Мы дамагаемся, каб газета "Наша Ніва" мела людское і боскае права пісаць беларускім правапісам, такім, якім яна пісала праз сем гадоў, так як пішуць увесь час беларусы свету, не падданыя рэжыму Лукашэнкі.

Мы дамагаемся ад Амбасады РБ у Атаве, Канадзе давесці да ведама цяперашняму Ураду Беларусі аб нашым становішчы, аб нашых пратэстах і нашых дамаганнях даць свабоду "Нашай Ніве" пісаць правільным правапісам 20-х гадоў.

Жыве Беларусь !
Жыве наша родная беларуская мова !

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Старшыня Каардынацыйнага Камітэта Беларусаў Канады

## Да 135-угодкаў апошняга паўстання

2 жніўня паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна адбыўся фэст у памяць герояў паўстання 1863 года, палеглых на гэтым полі 135 гадоў таму назад. Імша, адпраўляная ксяндзом Рышардам з двумя дзяканамі, ішла пароўну на беларускай і польскай мове.



Фэст у гэтым месцы адбываецца ўжо чацвёрты раз. Сабралася каля двухсот чалавек з Ліды, М.Ольжава, Мохавічаў, Белагруды.

За чатыры гады былі праведзены значныя краязнаўчыя вышукі і сёння ўпершыню прагучала, што збег фактаў дае падставу казаць: у баі на гэтым полі ўдзельнічаў вялікі беларускі паэт, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч.

## " Не пазбягайце важных тэм"

*Меркаванне падпісчыка.*




Спадарыня В. выпісвае "Наша слова" ад ягонага з'яўлення ў 1990 годзе. Не жадаючы прыцягваць да сябе празмерную ўвагу, яна прасіла не змяшчаць у газеце яе імя. Дзеля таго, аднак, што змест і лёс "НС" ёй не абыякавы, спн. В. ахвотна пагадзілася выказаць меркаванні наконт газеты, якія, на маю думку, будуць цікавыя не толькі для рэдакцыі, але і для чытачоў "НС".

***— Шаноўная спадарыня, калі аднавілася выданне "НС", Ваша сям'я адразу ж аформіла падпіску?***

— Так. Напачатку куплялі ў кіёску, а калі аб'явілі падпіску, мы падпісаліся.

***— А чаму, калі можна спытаць ? Я ведаю, што Вы чытаеце "Нашу Ніву", здаецца тое ж кола тэмаў. Чаму менавіта "НС"?***

— Мы выпісваем тыя выданні, у якіх агульная лінія супадае з нашымі думкамі. А па другое, мы проста хочам яе падтрымаць.

***— Гэта значыць, не столькі змест Вас цікавіць, колькі сам факт існавання ?***

— Не, не ! Вось "ЛіМ" мы перасталі выпісваць гады са два. Мы выпісваем такія выданні, чыя галоўная лінія адпавядае нашым думкам. Мы можам часам з імі не згаджацца, лічыць нейкі нумар слабым, але падтрымліваем асноўны накірунак.

***— Значыць, у галоўным Вы з рэдакцыяй згодны. А якасць Вас задавальняе ?***

— "Наша слова" напрыканцы свайго існавання мне здавалася слабой газетай. Зараз, як пайшлі першыя нумары, мяне прыемна ўразіла, што яна стала смялейшай, больш шчырай. Ёсць у тым элемент смеласці — паказаць колькі падпісчыкаў, якая падтрымка ... З'явіўся таксама шэраг публікацый са стылем, з добрым узроўнем думкі. Гэта прыцягвае.

***— А як Вы глядзіце на такі "жанр" як лісты ў рэдакцыю ? Чытаеце іх, ці не ?***

— Абавязкова чытаю. Я ўвогуле лічу, што толькі газеты, што маюць зваротную сувязь, запатрабаваныя, так бы сказаць, чытачом.

***— А ці варта , і колькі варта друкаваць мастацкіх твораў у "НС", улічваючы ейны профіль ? Калісьці "старое" "НС" друкавала апавяданні, пераклады ...***

— Так - так, была рубрыка, яе вёў Баршчэўскі. Я спачатку гэтыя вершы не чытала, бо не захапляюся беларускай паэзіяй. Але аднойчы прачытала пераклады Баршчэўскага, здаецца, з ангельскай класікі, то пашкадавала, што не звярнула ўвагі раней. І я лічу, што такая рубрыка, калі там будуць сапраўдныя майстры, патрэбная. Бо яна паказвае магчымасці беларускага слова. Але калі браць у цэлым, то для літаратурных твораў такой малой газеце трэба адводзіць вельмі мала месца.

***— А для чаго трэба на Вашу думку даваць болей месца ? Ці Вы хацелі б чытаць на нейкую тэму, якой няма сёння ў газеце, ці таму, што ёсць, аддаць болей газетнай плошчы ?***

— Я б хацела і далей чытаць артыкулы прафесара Сцяцко ці іншага філолага ў накірунку навучання беларускай мове ў самым цяжкім аспекце, менавіта, ў ужыванні фразеалагізмаў, стылістыцы. Такая рубрыка павінна быць.

Мне падабаюцца агляды прэсы, я лічу, што іх абавязкова трэба рабіць, і калі б кола выданняў, што аглядаюцца, пашыралася, я б гэта вітала. Ёсць агляды і ў іншых выданнях, напрыклад у "Нашай Ніве", але я лічу для "НС" гэта неабходна.

Пра лісты мы ўжо гаварылі, а яшчэ я хацела б, каб у "НС" разглядаліся балючыя праблемы нашага жыцця, каб дыскусія ішла. Упэўнена, што чытачы возьмуць у гэтым удзел.

Для прыкладу, абавязкова трэба разглядаць рэлігійныя справы. Ёсць, канешне, царкоўныя выданні, але іх чытае вузкае кола, Каталікі не чытаюць праваслаўныя газеты і наадварот. "НС" магло б стаць свецкай трыбунай для супольнага абмеркавання гэтых праблем.

Вось з'явіўся артыкул Астапенкі, спрэчны, дыскусійны. Справа ж не ў мове, а ў стаўленні царквы да мовы... Але галоўнае пажаданне — не пазбягаць вострых тэм. Мне здаецца, газета іх пазбягае, а гэта зніжае цікавасць да яе.

І яшчэ адно пажаданне: меней месца для прызнанняў у любові да мовы, для прымітыўных вершыкаў. Мы гэтага начыталіся ... Я б хацела, каб людзі дзяліліся, тым, што можна практычна зрабіць па ўжыванню і прасоўванню мовы. У тых жа рэлігійных справах, напрыклад, каб людзі чулі мову ў пабытовым ужытку. Або калі дзе дамагаліся, каб у царкве навучаліся дзеці пабеларуску. Каб людзі дзяліліся сваімі досьведамі.

***— Дзякуй вялікі за гутарку.***

**Распытваў Д.Ж.**



№ 30(364) 5 ЖНІЎНЯ 1998 г. наша слова

# Недаравальна забывацца пра ўласную годнасць!

Разважаючы аб стане беларускай мовы гадоў дваццаць таму адзін стары настаўнік заўважыў, што беларусы самі вінаватыя ў заняпадзе мовы. Ён гэта абгрунтоўваў тым, што фармальна забароны беларускай мовы не было, гэта і трэба было выкарыстаць, як тое рабілі, напрыклад, у Прыбалтыцы.

У пэўнай ступені ён меў рацыю, калі б не адна акалічнасць — размова чалавека адукаванага ці службоўца па-беларуску ўладамі трактавалася, як нацыяналістычны (у бальшавіцкім сэнсе) выклік рэжыму з адпаведнымі для гэтага чалавека вынікамі. Гэтым старым прыёмам запалохвання паспяхова карыстаецца і сучасны рэжым, які лічыць, што трэба зрабіць яшчэ адзін крок у бок разбурэння нацыянальнай свядомасці і справа асіміляцыі будзе вырашана назаўсёды.

Асімілятары лічаць, што для гэтага трэба не дазваляць на Беларусі шырока карыстацца беларускай мовай, трэба разбурыць нацыянальную адукацыю і ганьбіць, ганьбіць і аплёўваць сваю мову і культуру. Робіцца гэта нахабна, са здзекам, падмацаваным пагрозамі, глыбокадумнымі разважаннямі аб вартасці расейскай і ангельскай моваў, нават аб няздольнасці беларускамоўных людзей увогуле нешта рабіць і іншымі падобнымі філасофска-лінгвістычнымі перламі хатняй вытворчасці.

Кіраўнікам, не абцяжараным вялікай культурай, якія "понимают о том", што "надо положить решительный конец" нацыянал-экстрэмізму, які праяўляецца ў выглядзе барацьбы за права вучыцца па- беларуску ці ведаць праўду аб сваёй Бацькаўшчыне, трэба "понять", што ёсць абставіны, якія не падуладныя прывярэддзю чыноўніка. Вынікі пасляваенных перапісаў насельніцтва паказваюць, што колькасць беларусаў, якія жывуць у горадзе і назвалі роднай мовай беларускую ў 1959 г. — 77,6 %, 1970 г. — 75,7 %, 1979 г. — 68,6 %, 1989 г. — 69,6 %. Вясковае беларускае насельніцтва адпаведна 98,2 %, 98,8 %, 98,2 %, 98,4 %. Калі браць лічбы апошняга перапісу, дык гэта 3399 020 беларускага гарадскога насельніцтва і 2 942 068 вясковага — усяго 6 341 088 чалавек, што і складае 80,2 % ад усяго беларускага насельніцтва краіны ( гл. атлас "Беларусы — этнаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі", Мінск, 1996 г.)

А зараз я пытаюся ў сп. прэзідэнта Лукашэнкі — чаму ён як чыноўнік, які атрымаў права быць на чале незалежнай дзяржавы, не стварае ўмовы, каб забяспечыць хоць бы гэты статус-кво ў адносінах да беларускай мовы ?

У 1994 г. у беларускамоўных класах вучылася 70 % першакласнікаў, у 1998 г. іх ужо па словах міністра В.Стражава ("Звязда", 10.04.98 г."Прэзідэнцкая папраўка не спадабалася частцы дэпутатаў") увогуле толькі 9 %.

Верагодна па гэтай прычыне, каб замаскаваць перад сваёй і сусветнай грамадкасцю гэтае абуральнае становішча, кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі М.Мясніковіч на слуханнях па правах чалавека ў Нацыянальным сходзе назваў міфічную лічбу — як быццам у краіне вучыцца па- беларуску 62% вучняў. І як толькі язык паварочваецца казаць такое ? Відаць па гэтай прычыне і прэзідэнт Лукашэнка ў інтэрвію расейскай журналістцы І.Зайцавай кажа пра тое, што беларускамоўная адукацыя ў час яго кіравання не пагоршылася. Верагодна гэта гаворыцца ў разліку на шматнацыянальную Расею.

У Віцебску з 1994 года колькасць беларускамоўных вучняў зменшылася ўдвая, іх толькі 1590 з 51 000, а беларускамоўных першакласнікаў (у 1994 г. іх было 698 ) засталося толькі 68 з 4 700 у горадзе. Аб якім развіцці нацыянальнай культуры ў далейшым можа ісці размова ? А можа ў іншых месцах Беларусі становішча лепшае ?

Мне могуць запярэчыць, што такое становішча з беларускай мовай склалася па волі народа, якая была выказана на рэферэндуме 1995 г.

Нагадаю, што на рэферэндум было вынесена пытанне: "Ці згодны Вы з наданнем расейскай мове роўнага статусу з беларускай ?"

Статус у перакладзе — стан, становішча, па- расейску — состояние, положение. Пасля рэферэндуму прайшло тры гады. Ці адпавядае стан, "положение" ў грамадстве беларускай мовы стану, "положению" рускай ? Не! Правамерна спытаць: "Чаму дзяржава, адміністрацыйныя органы і ў першую чаргу адукацыйныя ўстановы не забяспечылі, а абавязаны былі забяспечыць, фактычны роўны стан беларускай мовы ў адносінах да расейскай ?"

Прыгадаем, што за роўны статус расейскай і беларускай моваў, калі верыць афіцыйнай статыстыцы, прагаласавала 83,1 % ад тых, хто прыйшоў на рэферэндум, што складае 54 % ад усіх хто меў права голасу. Па моўнаму пытанню галасавала і тая значная частка ад 20% не беларусаў, што жывуць на Беларусі, якія ў сваёй большасці расейскамоўныя і, як правіла, выступалі супраць беларускай мовы. Гэтыя людзі маюць неабмежаваныя магчымасці вучыцца і ўдасканальваць свае веды на мове, якую лічаць роднай — гэта іхняе права, забяспечанае законам аб мовах. Але на якой падставе гэтыя людзі вырашаюць лёс беларускай мовы ?

Мне могуць запярэчыць, што быў яшчэ адзін рэферэндум 1996 года, дзе ў так званай новай Канстытуцыі запісалі, што на Беларусі дзве дзяржаўныя мовы — расейская і беларуская. Але агульна вядома, што ў заканадаўчы дакумент уносіцца такая фармулёўка, якая прымаецца на рэферэндуме, а там было слова статус. Дык хто ж даў права рабіць запіс- перакрут у гэтай "абноўленай" Канстытуцыі за якую, дарэчы, рэжым наладзіў галасаванне амаль за два тыдні да яе апублікавання ?

Тое, што зроблена, зроблена наўмысна і азначае, што беларуская мова губляе Канстытуцыйныя гарантыі і дзяржаўную падтрымку адзінай дзяржаўнай мовы; расейская, як найбольш распаўсюджаная, удушае беларускую, кожны чыноўнік атрымлівае права ігнараваць беларускую і ўжывае толькі расейскую.

Пры сітуацыі, што склалася ў краіне з беларускай мовай, я прапаную прэзідэнту Лукашэнку ў бліжэйшы месяц выйсці на тэлебачанне ў просты эфір і абмеркаваць моўную праблему ў дзяржаве з кіраўніком ТБМ Г.Бураўкіным. Дыскусія павінна доўжыцца не меньш гадзіны і праходзіць не ў стылі звычайнага для спадара Лукашэнкі маналогу, а ў выглядзе дыялогу, дзе кожнаму суразмоўцу можна цалкам выказаць свае меркаванні.

Напрыканцы свайго допісу хачу нагадаць усім чытачам "Нашага слова", што беларуская мова і сёння афіцыйна не забаронена і не будзе забаронена, як бы не напружваліся для гэтага ворагі Беларушчыны. Сумленнаму грамадзяніну Беларусі ганебна адчуваць сябе падпольным беларусам і саромецца карыстацца сваёй мовай у грамадскім жыцці. Гэты сорам можа быць выкліканы толькі пачуццём уласнай непаўнацэннасці, што з- падволь упарта прывіваецца беларусам рознымі сродкамі масавай інфармацыі і прапаганды. Але не даравальна забывацца і пра сваю ўласную чалавечую і нацыянальную годнасць.

***В.Арлоў, старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ***

# Рынак культур

Развіццё беларускай культуры ў XX стагоддзі звычайна звязваецца з свядомкам Адраджэння, але апошняе ніяк не можа самазахавацца працяглы час. Як не сумна гэта прызнаць, але не Лукашэнка стаў тым Харонам — чыноўнікам, які адвёў новы беларускі Рэнесанс у іншы свет. Ён быў толькі пацверджаннем культуралагічнага фатума. Ён здзейсніў тое, што рана ці позна здзейсніў бы нехта іншы.

Найбольшы выт па беларускасці нанесла ўсеабдымная расейская культура, якая ўжо гуляе па законах рынку, якая больш канкурэнтназдольная. Найбольш уплывовая культурная з'ява - гэта тэлевізія, што фармуе светапогляд чалавека ўва ўсім свеце. Працэнт тых, хто не глядзіць тэлевізар, вельмі нязначны. Як лічыць амерыканскі культуролаг Дэвід Старк, ніякі сродак масавай інфармацыі не аказвае на чалавека такі ўплыў як блакітны экран. Мы імітуем тое што бачым, а бачым мы расейскія стужкі, забаўляльныя шоў, праграмы навінаў. Нас клапоціць не тое, што зачыняюць беларускі ліцэй, а тое, як развязаць "петербургские тайны". ОРТ, РТР, НТВ, "Культура", ТВ6, а часткова БТ, зрабілі тое, што не змог бы зрабіць Лукашэнка, бо ён сам сацыяльна-псіхалагічны закладнік культурнага імпарту, сам рос у расейскім інфармацыйным асяродку.

Наша становішча блізка да ірландскага варыянту, але ў адрозненне ад нас ірландызацыя — нацыянальная палітыка дзяржавы, у нас жа наадварот. Дарэчы, многія ірландцы ўжо апусцілі рукі, бо іх культура не канкурэнтназдольная перад ангельскай. Гэта праблема датычыцца і Беларусі.

Якія ж шляхі выйсця? Напрыклад, створым незалежны канал, але для яго два шляхі: ці ён стане расейскамоўным, ці ён стане банкротам. Электарат не ўспрымае беларускасць, а незалежная тэлевізія ва ўсім свеце пабудавана на наступным прынцыпе: калі праграма папулярная, на яе ёсць рэкламадаўцы — яна існуе, калі не, - прэч з эфіру. Менавіта таму на амерыканскіх і нямецкіх тэлеканалах мала навінаў. У адрозненні ад нашага дзяржаўнага, мэта якога іфармаваць ці прапагандаваць, мэта іхняга тэлебачання — забаўляць. Таму праблема выбару мовы будзе клапаціць рэкламадаўцаў, а значыць, і тэлекампанію. Фільмы на беларускую мову трэба перакладаць, а за гэта плаціць кампанія, а гэта яшчэ выдаткі, калі расейскія пераклады можна наўпрост купляць у расейскіх перакладных фірмаў. Усё складваецца не на карысць беларускай мовы ва ўмовах рынку. Адзіны шанец для яе — дзяржаўная падтрымка і падвышэнне яе канкурэнтаздольнасці: пошук новых талентаў, гранты для літаратараў, гуртоў, нарэшце свой нацыянальны культурны канал, накшталт амерыканскага PBS ці ангельскага BBC - 2.

Не хочацца ў гэта верыць: ірландскі варыянт гэта тое, што нас чакае ва ўмовах дэмакратыі і рынку. А я думаю, што гэта лепш, чым культура паводле Шпенглера.

Мы называем гэты перыяд чарговым адрджэннем. Я спадзяюся, новы яго вiток будзе звязаны з свядомкам постмадэрнізму, які аб'ядноўвае старое і дае шмат новага, што і трэба бачыць як нашу постлукашэнкаўскую будучыню ва ўмовах свабоднай мультыкультуралагічнай канкурэнцыі.

***Андрэй Храпавіцкі***

# На нашай "уліцы" ...

У кожным горадзе ёсць месцы, куды перш за ўсё вядуць гасцей, куды самі карэнныя жыхары любяць прыйсці ў вольную часіну — адны ці з сям'ёй, — каб адпачыць у атачэнні ўлюбёных гарадскіх краявідаў ...

У Менску такім месцам можа лічыцца Траецкае Прадмесце — адзін з найбольш любімых самімі менчукамі раёнаў сталіцы, да якога мы маем нейкае асаблівае цёплае пачуццё. Менавіта сюды па традыцыі вядуць у першую чаргу наведвальнікаў нашага горада. І што ж яны, тыя наведвальнікі, бачаць?

А бачаць яны (зрэшты, бачым і мы самі, бо ці не штодня праходзім міма гэтага) грубыя парушэнні нормаў беларускай мовы !

Яшчэ да таго, як даходзіць справа ўласна да самога Траецкага, вока беларуса міжволі спыняецца на шыльдачцы, якая "аздабляе" сцяну Дома Моды. Накрэслена там: ***"Уліца Нямігі"***. Цікава, гэта на якой мове? А побач — гандлёвы дом ***"На Нямізе"***, адзін з найбольшых менскіх гандлёвых цэнтраў, які штодзень наведваюць тысячы патэнцыяльных пакупнікоў. Таму адрэзак шляху ад будынка ***"На Нямізе"*** да пераходу ў бок Траецкага Прадмесця — адзін з найбольш тлумных у горадзе. З раніцы да вечара праходзяць людзі каля недарэчнай шыльды і даведваюцца, што знаходзяцца на ***"уліцы"*** Нямізе . . .

А потым праходзяць па набярэжжы Свіслачы і трапляюць у знакамітае Траецкае Прадмесце, на вуліцу, што, як высвятляецца, мае назву "***Вуліца Гандлева Набережная"***. (Калі ўжо так, дык трэба: ***Гандлёва - Набярэжная*** ці ***Гандлёвая Набярэжная***). Як кажуць, няма словаў ...

Каб пазбавіцца цяжкага ўражання, атрыманага ад сузірання грубых граматычных памылак у сэрцы старога Менска, вы можаце накіравацца ў ***"Піў-бар"*** (замест ***"Піўбар")***, ён тут жа, побач ... Ці, калі вы не належыце да аматараў піва, — у ***"кофейню"***. Яна таксама за два крокі, ля карчмы ***"Старавіленская"*** ... Чаму не ***"кавярня"***? Што робіць ***"кофейня"*** сярод беларускамоўных назваў, незразумела.

... А кожная ж з гэтых шыльдачак прайшла праз шматлікія рукі, перш чым трапіла на мур таго ці іншага будынка. Няўжо НІХТО з тых, хто спрычыніўся да аздаблення Менска такімі ***"ўпрыгажэннямі"***, не ўбачыў недарэчнасці таго, што на іх напісана? І ці варта потым здзіўляцца, што беларуская мова ў некаторых беларусаў выклікае пачуццё непрымання, адштурхоўвае, калі родная мова ў родным горадзе прадстае перад імі ў ТАКІМ выглядзе ?

***Марыя Грамыка***
***студэнтка журфака БДУ***

**" . . . каб не ўмёрлі . . ."**

# Пра самае "балючае" нават не ўспомнілі ...

## Па сцэнарыю "застойных" гадоў.

Чарговая сесія гарадскога Савета дэпутатаў галоўным пытаннем павесткі дня азначыла школьную рэформу. У дакладзе загадчыка аддзела адукацыі гарвыканкама М.М.Арачкоўскага яно значылася даволі "витиевато": "О ходе исполнения Закона Республики Беларусь" "О образовании в Республике в части реформирования школ города". Чытач ужо здагадваецца, што даклад прагучаў на расейскай мове. Так, так — гэта ўжо стала ў апошні час з'явай у рабоце абодвух аддзелаў адукацыі — гарадскога і раённага: ні слова па-беларуску у дакладах, на сесіях, настаўніцкіх нарадах!

З галавою, павернутай ва ўчарашні дзень, у "застойныя" гады.

Не дзіва, што і выступоўцы у спрэчках на сесіі дырэктары СШ № 4 У.Ломец, СШ № 5 С. Мяцельскі і іншыя таксама дэманстравалі сваю адданасць зададзенаму моўнаму "курсу", хоць некаторыя з іх у свой час ўжо нядрэнна размаўлялі па-беларуску. Перабудаваліся!

На працягу амаль дзвюх гадзін у зале ішла увогуле дзелавая і сур'ёзная размова аб не простых праблемах рэфармавання сярэдняй школы, дашкольных установ, аб новых педагагічных тэхналогіях навучання, аб тым, што з новага навучальнага года ва ўсіх гарадскіх школах будзе ўведзена вывучэнне замежнай мовы з першага класа.

І толькі аб гаротным стане беларускай мовы ў школах хоць бы адзін выступоўца замовіў слоўца! Гэта ж трэба ўмець, так закрыць вочы і вушы і рабіць выгляд, што такой праблемы не існуе! А яна — балючая, трывожная, б'ючая ў сэрца кожнага, хто не абыякавы да небяспекі поўнай, канчатковай русіфікацыі нашага народа і выраджэння яго, як этнаса. Ні адзін з 25 дэпутатаў гарсавета, ніхто з запрошаных на сесію дырэктараў школ, не дэпутатаў, не палічыў патрэбным выйсці на трыбуну і падаць у абарону роднай мовы голас хоць бы, як калісці пісаў паэт Маякоўскі, "тоньше комариного писка". А дарэмна. На сёняшні дзень у горадзе засталася адна беларускамоўная школа — № 12, там ужо набралі ў сем першых беларускамоўных класаў звыш 170 вучняў.

У астатніх 11-ці школах пакуль зацішша. Праўда, у СШ № 7, дзе тры гады таму было аж чатыры такія першыя класы, пакуль прынеслі заявы толькі ... двое бацькоў, хто не забыў матчынай мовы. А для таго, каб клас быў цэльнакамплектным, неабходна набраць як мінімум 16 дзяцей. У іншых школах і дырэктары, і настаўнікі справу камплектацыі беларускамоўных першых класаў пусцілі на ўгледжанне бацькоў — як тыя пажадаюць, так таму і быць.

А бацькі, слухаючы дзяржаўнае радыё, гледзячы беларускае тэлебачанне, дзе усё чыноўніцтва зверху да нізу размаўляе толькі на расейскай мове, робяць для сябе выснову: родная мова непатрэбна, калі часам хто з настаўнікаў заікнецца наконт закона аб двухмоўі, яго могуць прыперці да сцяны адзіным аргументам: "Нам, родителям, дано право самим выбирать язык обучения!" І той апускае рукі — здаецца, як кажуць, без бою, бо адзін — не вояр.

***Анатоль Мятліцкі, г.Слуцк.***





*Клопаты Гомельскай абласной*

# У сузор'і антыбеларушчыны

Адбылося выязное паседжанне абласной Рады ТБМ. Яно праходзіла ў славянска-беларускай гімназіі — былой сярэдняй школе № 36 горада Гомеля "Сузор'е". Сабраліся па просьбе дырэктара гімназіі Таццяны Антонаўны Цыганок. Пад пагрозай знішчэння аказалася адзіная школьная навучальная ўстанова ў горадзе, у якой выкладанне прадметаў вядзецца на роднай мове.

**Таццяна Цыганок:**

*— Цяжкая сітуацыя склалася сёння з наборам вучняў у першыя чатыры класы гімназіі. Можа гэта ад таго, што мы яшчэ адзіныя трымаемся на фундаменце Беларушчыны. Бо ўсе астатнія школы працуюць на расейскай мове. Сёння я атрымала даведку, што ў СШ №45 пераводзяцца апошнія беларускамоўныя класы на расейскую мову. Пагэтаму нараджаецца хваляванне і неспакой у бацькоў, у іх узнікае законнае пытанне — а ці трэба сёння навучаць сваіх дзяцей на беларускай мове, калі спрэс ідзе скарачэнне, калі не спыняецца знішчэнне роднай мовы. Гэтыя ж хваляванні выкарыстоўваюцца невядомымі групамі, антыбеларускімі групамі, людзі якіх ходзяць па кватэрах бацькоў, якія павінны аддаваць сваіх дзетак у нашую ўстанову і агітуюць, нават загадваюць не аддаваць нам дзяцей. Яны нават запалохваюць бацькоў, пагражаюць нейкім пакараннем.*

*Я зразумела, што ствараецца блакада і знішчэнне апошняй беларускамоўнай установы. На жаль, гэтым фактам не зацікавіліся ні праваахоўныя органы, ні гарадскія ўлады. Як і не зацікавіліся тады, калі прыязджаў да нас прадстаўнік гараа Халілаў і адкрыта і цынічна прымушаў бацькоў не падаваць заявы ў першыя класы. Не адчуваем мы падтрымкі, а наадварот, ідзе супраціў ад дырэкцыі СШ №-38 і дзіцячага садка № 100 ...*

*З гэтага садка, яшчэ № 100 і 105 , 103 і 115 дзеці павінны былі прыйсці да нас ... Я папрасіла Кацярыну Гаравую, выпускніцу нашай школы, каб яна наведала кватэры нашага мікрараёна, каб высветліла сітуацыю ... Яна прысвяціла гэтаму некалькі вечароў.*

*Сітуацыя вымагае зрабіць высновы — калі не будзе набору ў чатыры першыя класы, калі не дапамогуць нам грамадскія арганізацыі, гарадскія ўлады і аддзел адукацыі, то ў горадзе не застанецца ніводнай беларускай школы.*

*Мы вывешвалі ўлёткі аб прыёме вучняў у нашую ўстанову па ўсім горадзе. І было шмат званкоў. Але ўсе задавалі галоўнае пытанне — а як жа дзяцей даставіць з другога канца горада? Трэба спецыяльны транспарт. Але хто ж яго нам выдзяліць?*

*Магу дадаць, што калі быў загадчыкам Барушкоў, то ён, валодаючы сам роднаю мовай, усяляк дапамагаў нам у працы. Сёння яго звольнілі, як звольнілі раней прыхільніка Беларушчыны Засінца — у Мазыры ён цяпер працуе. А Барушкоў — на біржы працы. Ляжаў у абласной бальніцы, і да нас заглядваў, цікавіўся нашымі справамі. Шкадаваў, што так атрымліваецца ... Новы цяпер загадчык упраўлення адукацыі — Сабко. Дык мы яго не ведаем, яшчэ не сустракаліся ...*

**Кацярына Гаравая,** сябра аб'яднанай грамадзянскай партыі:

*— Я абышла амаль усе кватэры бацькоў, якія павінны былі адпраўляць сваіх дзяцей у самую блізкую для іх навучальную ўстанову — беларускую гімназію. Вынікі несуцяшальныя. Ёсць некаторыя бацькі, якія згодны аддаць дзяцей у гімназію, ёсць, што яшчэ вагаюцца, не зрабілі канкрэтны выбар для сваіх дзяцей.*

*Маша Кузьмянкова жыве побач з гімназіяй. Ёй зручна было б хадзіць сюды, і бацькам спакойней. Але маці дзяўчынкі наадрэз адмовілася аддаваць дачку ў гімназію.*

*Бабуля Валянціны Машарэйкінай заявіла, што не хацела б, каб было, як на Украіне — усё на сваёй ды на сваёй мове.*

*Бацька Юлі Шандроўскай спытаў: "Калі б Ньютан размаўляў на чукоцкай мове, ці адкрыў бы ён свой закон?.."*

*Некалькі сямей з ахвотаю аддаюць дзяцей у "Сузор'е". Астатнія адпраўляюць дзяцей у 62-ю, 38-ю, 61-ую, 58-ую школы, хаця і не знаходзяцца яны побач.*

*Я зрабіла вывад — мы спазніліся з агітацыяй. Тыя, антыбеларусы, зрабілі сваю чорную справу ў мікрараёне. Таму нам трэба выходзіць на ўсе мікраёны горада. Нават на Валатаву і Сельмаш. Я не веру, што з усяго горада, раз вынішчаны беларускія школы ў раёнах, не назбіраецца першаклашак на гэты навучальны год.*

*Мае прапановы — гэтыя праблемы неабходна вынесці на сродкі масавай інфармацыі. Гарадскія, абласныя і рэспубліканскія. Выйсці на палітычныя партыі. Гэта не палітыка, якой баяцца ўлады. Гэта — стан адукацыі. Гэта — будучае нацыі.*

*Неабходна звярнуцца да праваабарончых арганізацый — Хельсінскага камітэта, на канвенцыю.*

*Болей настойлівасці, болей баявітасці. Мы ў сябе на радзіме. Нам тут жыць, нам тут будаваць шчаслівае жыццё.*

**Віктар Кажухоў** — інжынер па абсталяванню палітэхнічнага інстытута:

*— Я штогод дапамагаю школе — то ўлёткі друкую і распаўсюджваю, то прымаю ўдзел у розных мерапрыемствах. Так сказаць, тэхнічнае забеспячэнне. З 95-га года падтрымліваю цесныя сувязі са школаю.*

*І я хадзіў па кватэрах. Адчуваў негатыўныя адносіны некаторых сямей да беларускай школы. Прыкра ўсё гэта ... Прыкра ад таго, што ў сваёй дзяржаве немагчыма адчуваць сябе беларускім грамадзянінам, што ідзе самае сапраўднае ўдушэнне — і на гэта спакойна сузірае ўлада ...*

**Алена Зінчук,** намеснік старшыні гарадской Рады ТБШ:

*— Мой сын вучыцца ў гэтай школе з другога класа. Сёлета ў пяты клас пойдзе. Зразумела, цяжка кожны раз яго праводзіць да школы, калі мы жывём каля цэнтральнага рынку, але сын палюбіў Беларушчыну, дома размаўляем толькі на беларускай мове. Старэйшы, Алесь, даўно стаў свядомым беларусам — з самага дзяцінства. Цяпер ён — студэнт ВНУ, і шмат у яго сяброў, якіх не адарваць ад беларускіх песень, беларускай гісторыі, культуры і беларускага жыцця.*

* * *

Для абласной Рады ТБМ гэтае становішча ў гімназіі не стала нечаканым. Бо пасля таго навязанага беларускаму народу рэферэндуму, ад беларусізацыі адмовіліся нават тыя, хто непасрэдна павінен быў гэтым займацца. А папярэджвалі Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч, што рэферэндум — гэта прыкрыццё злачынства супраць свайго народу. Бо пытацца ў свайго ж народа пра мову, тое ж самае, калі пытацца ў любога чалавека — трэба яму дыхаць ці не. І без мовы, і без паветра чалавек гіне, як гіне нацыя. Антыбеларускія сілы і імкнуцца да таго, каб зліквідаваць беларускі народ як нацыю, адабраць у яго мову і культуру, што ў сугуччы азначае — яго душу.

Калі нехта заяўляе, што яму ўсё роўна на якой мове гаварыць, — хоць на японскай ці кітайскай, абы быў хлеб і каўбаса, — то гэта страшна. Гэта паражэнне духу. Гэта — ад сатаны, бацылу якога заганялі бальшавікі ўвесь час, як яны прыйшлі да ўлады. А сённяшняя ўлада — працяг той улады ...

У гарадскім выканаўчым камітэце за старшыню новы чалавек — Аляксандар Серафімавіч Якабсон. Перад гэтым быў у аблвыканкаме, а да таго — мэрам Светлагорска. У тым жа горадзе добра працавала і працуе гарадская Рада ТБМ, праводзіцца вялікая праца па адраджэнню Беларушчыны. ТБМ адчувала падтрымку старшыні гарвыканкама.

Па гэтаму я і папрасіўся на прыём, на сустрэчу з Аляксандрам Серафімавічам. Калі яму далажыла памочніца Надзея Кісялёва, што я хачу сустрэцца, ён і прызначыў сустрэчу праз два дні. Загадзя я сказаў, па якім пытанні хачу павесці гаворку. Да маёй прапановы Якабсон аднёсся больш чым зацікаўлена — запрасіў для ўдзелу ў размове загадчыка аддзела адукацыі Савецкага райвыканкама Ляаніда Сямашку і загадчыка гарадскога ўпраўлення, толькі што прызначанага на гэтую пасаду, Вадзіма Сабко. Ды яшчэ загадчыцу аддзела культуры гарвыканкама Лідзію Сайкову.

Я выклаў сваю занепакоенасць і трывогу за стан беларускага адраджэння ў Гомелі пісьмова — на трох старонках. Зарэгістраваў напісанае ў агульным аддзеле. Каб не на словах, а на паперы быў атрыманы адказ.

Здзівіла адразу тое, што Вадзім Сабко паспрабаваў гаварыць па-беларуску, сказаў тры-чатыры сказы і перайшоў на расейскую мову. На няроднай гаварыў і Сямашка. У мяне адразу нарадзілася пытанне — а хто-небудзь з кіраўнікоў адукацыі гаворыць на роднай мове ? ! Так, пачынаючы з абласнога кіраўніка — Міхаіла Кобрынскага, гарадскога — Сабко, Навабеліцкага раёна — Мохарава, Цэнтральнага раёна — Філіпцова, — усе яны не ўжываюць родную мову пры размове і тым больш на дзелавым узроўні. Выключэнне хіба загадчык Чыгуначнага аддзела адукацыі Руслан Будзюхін. А рэферэндум абавязваў чыноўнікаў ведаць добра дзве мовы — расейскую і беларускую. Тады вынікае пытанне па якіх тады параметрах іх прызначалі на гэтыя пасады ? Не любі і не ведай беларускага ?

Лідзія Сайкова падтрымала маю занепакоенасць, нават падзякавала за мае турботы, стараючыся падтрымаць мяне па-беларуску ( аддзел культуры шмат дакументаў друкуе на роднай мове, і аб'явы аб сваіх мерапрыемствах таксама ), але зрабіла папрок былому загадчыку гараа Міколу Засінцу:

*— Адраджэнне — гэта добра, але нельга ж так, як рабіў Засінец — мусова пераводзіў школы з расейскіх на беларускія...*

Такога я асабіста не чуў, як і не чуў таго факта, што ў Гомелі было больш беларускіх школ, чым расейскіх. Пакрывіла тут душой Лідзія Клімаўна. Каму, цікава, хацела патрафіць — мэру горада ці чыноўнікам ад адукацыі ?

Яе падтрымалі Сямашка і Сабко, што воля бацькоў — галоўная. Але я ведаю, як тую "волю бацькоў" праводзілі ў жыццё дырэктары школ і самі загадчыкі. Ведаю і тое, што ў кожнай школе былі дзеці, якія пачыналі вучыцца на роднай мове. палюбілі яе, а потым жа іх дырэктаравым загадам перавялі ў расейскія класы. Ніхто не пацікавіўся ўдзяцей, як яны рэагуюць на тое. А тое называецца генацыдам, удушэннем. Не былі створаны ўмовы для вучобы дзецям, якіх заставалася пяць-дзесяць, а то і дваццаць чалавек, жадаючых вучыцца па-беларуску ў школе. І пасля гэтага бессаромна гаварыць пра "волю бацькоў"? Гэта здзек, хлусня, шаноўныя чыноўнікі ад адукацыі !

Аляксандар Якабсон слухаў нашы размовы, перапытваў, калі што было незразумелым, спытаў ва ўсіх:

*— Дык што будзем рабіць ? Ці ёсць выйсце з гэтага становішча — маецца на ўвазе праблема гімназіі?*

*— Мы акажам дапамогу, — запэўніў Вадзім Сабко.*

*— Але ў нас шмат тады з'явіцца праблем... — выказаў меркаванне Сямашка. — Нам жа тады...*

*— А што ў нас ажыццяўляецца без праблем ? — спытаў Якабсон. — Трэба дапамагаць, гэта наш просты абавязак. Але я бачу, што вы не зусім задаволены гутаркай, — паглядзеў на мяне старшыня гарвыканкама. — Што вас яшчэ хвалюе ?*

*— Ды шмат чаго. І што Гомель нагадвае сваім выглядам расейскі горад — усюды шыльды і аб'явы на расейскай мове , аб'явы прыпынкаў у аўтобусах і тралейбусах — на расейскай мове, у крамах — усё напісана не на роднай мове... Але гэта тэма для асобнага паседжання гарвыканкама ці гарадскога Савета.*

На тым і разышліся. Папера засталася ў гарвыканкаме. Па пісьмовым адказе будзем меркаваць пра дапамогу і зацікаўленасць гарадскіх уладаў.

Так што пачакаем...

***Копія***

***Гомельскі гарвыканкам***

***Паважаны спадар Бароўскі !***

***Пытанні, пастаўленыя ў вашым лісце, вельмі актуальныя. Яны выклікалі занепакоенасць у гарадскім выканаўчым камітэце.***

***Мною было дадзена даручэнне гарадскому ўпраўленню адукацыі распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па арганізацыі работы па прапагандзе беларускай нацыянальнай спадчыны сярод дзяцей і бацькоў і прыцягненню школьнікаў у Беларуска-славянскую гімназію.***

***18 чэрвеня 1998года гэтыя мерапрыемствы былі абмеркаваныя і ўзгодненыя на нарадзе ў начальніка ўпраўлення сумесна з загадчыкамі аддзелаў адукацыі раённых адміністрацый.***

***Просім ТБМ імя Ф.Скарыны прыняць удзел у рэалізацыі мерапрыемстваў, распрацаваных упраўленнем адукацыі гарвыканкама.***

***Мерапрыемствы прыкладаюцца.***

***Старшыня А.С.Якабсон***

* * *

Прачытала аб'яўку-улётку аб наборы ў першыя класы гімназіі Ірына Хажыева, патэлефанавала Таццяне Цыганок:

*— Ці можна каб наша дачушка Рыта вучылася ў вас? Праўда, яна год правучылася ў 33-й школе, па-расейску вучылася. Але яна добра ведае беларускую. Ці не маглі б вы яе праверыць ?*

Праз колькі дзён маці прыехала з Рытай да дырэктара. Цыганок папрасіла напісаць колькі сказаў па-беларуску, потым паразмаўляла з ёю.

*— Добра, Рыта, ты будзеш вучыцца ў нас. Добрыя ў цябе веды.*

А маці — настаўніца — прапанавала працу ў групе падоўжанага дня.

Аня Саідава вучылася ў 45-й школе, што на Сельмашы. Ды закрываюць там беларускія класы, і таму маці Ірына Саідава звярнулася да Цыганок з просьбай прыняць дачку ў беларускую гімназію.

*— Дык вам жа далёка ездзіць.*

*— Нічога. Анечка не хоча вучыцца ў расейскіх класах, яна палюбіла беларускую.*

*— Тады прывозьце дакументы, і пагаворым з дачушкай.*

Той, хто адчуў сябе беларусам, той не захоча ўжо адмовіцца ад гэтага. А калі б яшчэ спрыялі гэтаму, дапамагалі ?

А тут наадварот. Пад час сустрэчы ў гарвыканкаме ніхто не паверыў, што ходзяць нейкія людзі па хатах і загадваюць не аддаваць дзяцей у беларускія школы. Не паверылі, і сцвярджалі тое, але не былі наладжны па гэтым пытанні праверкі. А людзі ёсць, якія могуць тое пацвердзіць, расказаць. Але хто ў іх будзе пытацца пра тое ?..

Перад уваходам у гімназію вісіць шыльда з надпісам "Сузор'е".

А пад якім сузор'ем жыве сама гімназія ?

Пад сузор'ем антыбеларушчыны. Бо той антыбеларускі настрой з вуліцы прашыўся і ў працоўны калектыў. І некаторыя педагогі чакаюць не дачакаюцца, калі стоміцца Цыганок змагацца за існаванне беларускай гімназіі, калі выкіне белы сцяг паражэння, — і тады запануе ў школе расейшчына...

Хто дапаможа дырэктару гімназіі ?

Ці хопіць у яе сілаў выстаяць і перамагчы ?

Сёння ўжо на два класы пададзена заяў. Трэба яшчэ на два класы... Ці набярэцца столькі дзяцей?

Хочацца верыць, што насуперач генацыду і ціску, дзяцей набярэцца цэлы камплект.

І што нацыянальная школа "Сузор'е" будзе працаваць і набірацца сілы ў сузор'і дабрыні і шчаслівасці, мудрасці і адукацыі высокага кшталту.

*Анатоль Бароўскі,*
*старшыня Гомельскай абласной РадыТБМ імя Францішка Скарыны.*

# Аповесць пра словы ад Уладзіміра Содаля

## ДАЛІКАТКІ

Нашы дзяды і прадзеды з прыроды былі людзі далікатныя, абыходлівыя. На ўсялякую, нават на самую недалікатную з'яву ў іх былі свае далікатныя словы.

От слухайма ...

"Ішла я неяк раз, дзеткі, лесам, — распавядала адна наша беларуская жанчынка. — Аж нешта ў лесе як зараве, як затрашчыць, дык я з страху не ўстрымалася, упусцілася..."

Няцяжка здагадацца, што прыхавана за словаам "упусцілася". Звычайна, у побыце скажуць: "умачылася", "абмачылася" ці яшчэ як. А тут — "упусцілася".

Вельмі абыходлівае, як мне падалося, і слова "праставацца". Без кантэксту яго і не зразумееш. Пачуў я — гэтае слова ў Багушэвічавых Кушлянах.

... Расказвалі, што некалі тут жыў адзін кульгавы Цыпрук. Кульгавы то кульгавы, але вельмі быў падкі да кабет, умеў падпускаць да іх лёстачкі. Нават адна тутэйшая пані з ім патаемна мілавалася, ладзіла патаемна стрэчы дзесь поблізу Багушэвічавага валуна. "Прыйдуць, бывала, яны сюды — расказвалі мне, — памілуюцца, папрастуюцца, падымуцца з зямлі і вяртаюцца шчаслівыя кожны да свайго двара ..."

І зноў пра "гэта" неяк так сказана, так расказана, што разумееш, што адбывалася, але ні ў чырвань цябе не кідае, ні ў бянтэж, як гэта здараецца, калі б такую з'яву перадалі звычайным словам, якім карыстаецца пераважная большасць людзей і якія ў ніякія нашыя слоўнікі не ўключаюцца.

Бяскрыўднай і нават вясёлай падалася мне і такая прыпевачка, пачутая мною ў Астрашыцкім Гарадку:

*"Падымі кашульку,*
*Пакажы зязюльку..."*

Далібог, зусім не сорамна, а нават весела праспяваць гэтую прыпевачку кожнаму з нас сваёй жанчыне і не адна на вас не закрыўдуе, адно толькі хіба весела засмяецца, усміхнецца...

А вось яшчэ цікавы прыклад. Кожны з нас спраўляе свае біялагічныя патрэбы. Згадайце, якімі словамі мы пры гэтым карыстаемся,, калі хочам сказаць далікатна. Палякі ходзяць да ветру. Расейцы — на вялікае ці малое. А беларусы — на густое ці рэдкае, а Павел Місько занатаваў і такое: "вадзенькае, і гусценькае" "Наша слова" № 23 1991г. Больш дакладных азначэнняў і не прыдумаеш. А ці чулі вы слова "ежага"?

Даўнішнія дзеці, як вядома, не былі пераборлівыя, як цяперашнія, на ежу. Што было, што давалі, што на стол ставілі, тое і спажывалі, за тое і дзякавалі Богу. Але і даўней усялякае надаралася. Былі і капрызы. І тое не хачу, гэтага не буду. Тады, выведзеная з раўнавагі маці казала: "А ці не хочаш, маё ты дзіцятка, ежага?"

Пачуўшы не вельмі для сябе звыклае слова, капрызуля пыталася:

— А што гэта такое — ежага?

— А гэта, маё дзіцятка, гавенца свежага.

Я згадаў толькі некалькі даволі тактоўных моўных узораў з пікантнага чалавечага побыту. А колькі іх яшчэ не выяўлена! На Беларусі гэтым ніхто ніколі не займаўся. А дарэмна ! Мы павінны ведаць усе абыходлівыя словы і звароты, якія выпеставаў наш народ, маючы з прыродаю сваёй душу далікатную, цнатлівую, нераспушчаную. У Расеі падчас перабудовы выдалі слоўнік расейскіх мацюкоў. Скажам, навукоўцы Інстытута расейскай мовы падрыхтавалі да друку слоўнік рускай запаведнай ідыяматыкі амаль на чатырыста старонак. У згаданы слоўнік уваходзіць уся нецэнзурная лаянка ды іншыя "шэдэўры" расейскай мовы з "залатой" лаянкавай моўнай жылы.

А мы давайце з вамі збярэм і выдадзім слоўнік далікатных слоў і выразаў нашай мовы. І гэтым скажам, дакажам, што нашая нацыя, хоць была працяглы час сялянскай, але з прыроды свае далікатная, абыходлівая. Ну, а розныя маты — пераматы, розныя лаянкі хай вяртаюцца туды, адкуль прыйшлі. Там вельмі ганарацца, што ўвесь свет па-іхняму мацюкаецца. Паміж іншым, на зямлі нямала народаў, якія абыходзяцца без мацюкоў. Гэта і японцы, і. індыйцы, і палінезійцы. І ў галандцаў самае што ні на ёсць "моцнае" слова — гэта "дрэнь" , "дзярмо". Колісь і беларусы не ведалі мацюкоў, пакуль не спазналіся з усходнім суседам. А яно ж, вядома, з кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Згадваецца, наш знаны мовазнаўца Фёдар Янкоўскі засцерагаў сваіх вучняў: не пускайце ў слоўнікі слоў грубых, абразлівых, яны, як тое пустазелле, і самі не загінуць, не перавядуцца.

## НАЧЭПКА

Не адзін раз у мяне пыталіся, пытаюцца: як будзе па-беларуску "брелок"? " А слоўнік глядзелі?" — "Глядзелі, — кажуць. — Толькі нас такі пераклад не задавальняе. У слоўніку запісана: брелок — гэта бірулька. А бірулька, біруля паводле слоўніка Уладзіміра Даля, гэта дробная цацка, штось такое несур'ёзнае, якаясь забаўка, дробязь, не вартая ўвагі".

Што ж, такое адценне за словам "бірулька" відавочнае. То якім жа адпаведнікам перадаць па-беларуску азначэнне "брелка"? Доўга думаў, але нічога прыдумаць не змог. А патрэба ў беларускай назве простай, а разам з тым функцыянальна дакладнай і выразнай не знікала. І вось аднаго разу завітаў да мяне з Мазыра сябра маленства, а цяпер выкладчык Мазырскага педінстытута Ігар Карабанаў. Яму таксама спатрэбіўся беларускі адпаведнік да слова "брелок".

Паглядзелі яшчэ раз перакладны слоўнік і яшчэ раз расчараваліся, пабедавалі. Тады я і кажу: "Давай самі прыдумаем". Давай разважаць: што такое "брелок", якое яго прызначэнне? Штось на яго начэпліваюць і найперш ключы. То давай гэты "брелок" гэтак і назавём "начэпка" — празрыста, ясна этэмалагічна і функцыянальна дакладна. І па-славянску. Славянская аснова.

Мой сябра, з прафесіі біёлаг, а цяпер загадчык кафедры методыкі працоўнага навучання, аўтар дваццаці падручнікаў па працоўным навучанні на Беларусі і трох у Расейскай Федэрацыі, пагадзіўся, што больш дакладнай назвы і не прыдумаеш і тут жа ўпісаў яе ў ёмісты томік атэстацыйнай справы на прысваенне яму вучонага звання прафесара па спецыяльнасці экалогія.

Гэтак мы і блаславілі ў свет новы адпаведнік расейскаму слову "брелок". Было гэта 12-га студзеня 1998 года.

## НАТАТНІК

Ці даводзілася хоць раз табе, беларусе, за ўсё сваё жыццё бачыць на вокладцы якогась сшытка згаданае ў назве слова?

Пэўна што ні разу. І не дзіва. Нам адно прапаноўвалі і прапануюць "записные книжки". Неўпрыкмет, мы ўсе таксама найчасцей пачалі карыстацца гэтым назовам. І значна больш рэдка ёмістым, выразным, — ***нататнік.***

У нас ёсць і ***нататка***, і ***занатоўка***. Маем і ***нататкі***. Мы кажам таксама: ***натаваць, занатоўваць,***

Наша мова, як вядома, вызначаецца эканомнасцю сродкаў. Гэта даўно заўважылі многія вучоныя свету. Згаданы тут прыклад адзін з іх.

Хай жа ў нашай мове запануе слова ***нататнік***, хай яно дамінуе. Назоў жа "записная книжка" пакінем суседняй мове .

## ВОСЬ ЦО ДА!



Спрачаемся, разважаем, якое слова — ***"гатунак"*** ці ***"сорт"*** — адпавядае больш ладу беларускай мовы. Адны кажуць — ***"гатунак"***, іншыя — ***"сорт"***. Але абодва гэтыя словы пазычаныя. Першае з нямецкай праз польскую, другое з французскай праз расейскую. Дык што — выходзіць нашы продкі, пакуль не пазычылі згаданыя словы, не мелі для такіх азначэнняў адпаведных слоў?! Але ж такога быць не можа! Як жа яны тады абыходзіліся, гаворачы пра такія азначэнні, як гатунак і сорт? Нейкія ж пачуцці ў іх пэўна ж на гэта былі ...

Былі і ёсць. І яны вельмі і вельмі славянскія. Скажам пра насенне бульбы, гародніны, дрэваў беларусы, а, мабыць, — не толькі беларусы, але і іншыя славяне казалі і кажуць: бульба добрага **заводу**, насенне добрага **заводу**, куры, каровы добрага **заводу** (племя). Ну але так ужо павялося: навошта нам сваё, яно ж вельмі празрыстае, вельмі зразумелае. Нейкі там ***"завод"***. . От ***"гатунак"*** ці ***"сорт"*** — гэта "вось цо да"!

А паміж іншым і пра маладых бацькоў кажуць, што яны не хочуць шмат дзяцей заводзіць. А некаторыя не толькі дзяцей, але і сям'ю не хочуць заводзіць ... Ну, а не будзеш нічога заводзіць, не будзе і ніякага плёну. Будзе толькі тлен ... А плён — гэта ж расточак з насення добрага заводу. Так што ведалі нашы продкі і пра лепшы завод, і пра горшы завод. І някепска разумеліся. А мы ўсё ніяк не паладзім, якім словам лепш нам карыстацца, —" ***гатунак***" ці ***"сорт"***.

Спрачаемся, даказваем, дакараем, папракаем, абвінавачваем за прыхільнасць да аднаго ці другога слова. На гэтай падставе можна нават які-небудзь "—ізм" атрымаць. І ўсё гэта таму, што няма ў нас гаспадара свайго заводу: дбалага, чуйнага, які б родныя слоўцы ўзняў да дзяржаўных вышыняў.

## НЕ БУДУ ЧЫТАЦЬ ...

Згадалася ... Даручылі акцёру прачытаць у эфіры верш Гальяша Леўчыка "Хто адрокся сваіх ..." Акцёр прабегся вачыма па радках згаданага твора і раптам, нібы яго што ўкусіла, заўпарціўся:

— Я не буду чытаць гэты верш! — рашуча сказаў ён.

Гэта была для ўсіх вялікая нечаканка . Верш хрэстаматыйны, вельмі патрыятычны — і раптам такая заява. Але ніхто з нас супраць яго волі не пайшоў, ніхто яго не змушаў, ніхто не насядаў, каб чытаў. Не будзеш чытаць, то і не трэба. І ўсё ж здзіўленне не мінула да гэтай пары. А як вы думаеце, чаму ўсё ж такі акцёр адмовіўся чытаць у эфіры верш Гальяша Леўчыка "Хто адрокся сваіх..." Каб латвей было адказаць на гэтае пытанне, падаем і згаданы Леўчыкаў верш:

**Хто адрокся сваіх,**
**Хто стыдацца нас стаў**
**І прыліп да чужых, —**
**Каб ён свету не знаў!**

**Мову родную хто**
**Пазабыў, асмяяў,**
**Загубіў за ніщто, —**
**Каб ён свету не знаў!**

**Сваю родну зямлю**
**Хто чужынцу прадаў,**
**Скрыўдзіў вёску сваю, —**
**Каб ён свету не знаў!**

**Хто з народам не жыў**
**І карысці не даў,**
**Хто саіх не любіў, —**
**Каб ён свету не знаў!**

Дык чаму ж усё-такі акцёр адмовіўся чытаць у эфіры згаданы верш ?

## ЯР, ЯРЧЫНА...

Гартаў неяк "Руска-беларускі фізіка-геаграфічны слоўнік", складзены Э.Андрыеўскай і І.Галаем. Натрапіў на перакладную пару слоў: ***"ров-роў"***. І мне гэта так не засмакавала. Чамусь згадалася расейская дражнілка беларусаў: "А ну-ка, братка-беларус, скажы: трапка, бруха, врот (врёт)".

І вось яшчэ — ***"роў"***. У перакладным "Руска-беларускім слоўніку" іншых гэтаму слову сінонімаў таксама няма: ***"ров"*** і ***"роў"***. А яшчэ — ***"равы, равоў"***. Ну, добра, агрубела, але ж хай сабе будзе і ***"роў"***. Але што тады азначае ў нашай мове слова ***"яр"***?

Разготваю тлумачальны слоўнік нашай мовы, чытаю: "***Яр — круты бераг, роў, лагчына".***

Ага, яр — гэта і ёсць так званы роў. То на якое ліха мне тыды гэты ***"ров — роў***" гэта яшчэ і форма дзеяслова прошлага часу ад дзеяслова ***"раўсці"***, — калі мы маем такое каларытна паэтычнае, як ***"яр"***. Яно ж гучыць і ў народных песнях: "***Ішла я ярам, ішла далінаю".*** А хто з нас не ведае гэты звонкі радок: "***Цячэ вада ў ярок"!***

***"Яр ... Ярок ..."*** Паспрабуй заспяваць: ***"Ішла я ровам"***. Не заспяваеш. А заспяваеш, яно будзе раўсці разятраным быком.

... Прыгадалася ... У маіх родных мясцінах ведаюць і слова ***"ярчына"*** — гэтак у нас называюць дзялку лесу з ярыстай паверхняй, дзе шмат яроў.

Слова ***"яр"*** у нашых слоўніках у гордай адзіноце. Але, як бачым, у жывой мове яно зусім неадзінокае. Адно толькі слова ***"ярчына"*** чаго вартае! Ды гэтаж сапраўдны моўны дыямант! А дыямант ж у нас у пашане! Трэба спадзявацца, з цягам часу гэтае слова патрапіць у нашы слоўнікі. Стане побач з словам ***"яр"***, каб яму там не было больш маркотна і адзінока. Каб яно не нудзілася больш, спаткалася з сваімі суродзічам. У гэтае ж гняздо запішам і слова ***"ярысты"***.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная рада:***
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 3. 08. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 1887.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.